# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIII, № 193 Нью Ёрк Май — Травень 1973 New York Vol. XXIII № 193


## НА 50-Я ЎГОДКІ ЎРАДАВАЙ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ Ў БССР

Сёлета спаўняецца 50 год ад абвешчаньня на XII Усебеларускай партыйнай канфэрэнцыі ў сакавіку 1923 году новага курсу нацыянальнай палітыкі бальшавікоў, што атрымаў назоў беларусізацыі. Беларусізацыя была адным з вынікаў пастановаў X зьезду РКП(б) (Расійскай Камуністычнай Партыі бальшавікоў) у сакавіку 1921 году, дзякуючы якім пачаўся г. зв. „Нацыянальны НЭП". На гэтым-жа зьездзе быў абвешчаны лёзунг — „Вялікадзяржаўны рускі шавінізм — найбольшая небясьпека на дадзеным этапе".

„Нацыянальны НЭП" ня быў ніякім падаркам для нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу, хоць бальшавікі ў гэным часе якраз гэтак яго камэнтавалі. Наадварот, увесь „Нацыянальны НЭП", як і палітыка беларусізацыі былі выкліканыя палітычнай канечнасьцяй, якая змусіла даволі слабых яшчэ бальшавікоў пайсьці на гэты крок. Гэта найлепш пацьвердзіў ніхто іншы, як сам Сталін у 1924 годзе — у пэрыяд самага разросту „Нацыянальнага НЭП-у" й беларусізацыі. Выясьняючы дарэвалюцыйнае становішча бальшавікоў у нацыянальным пытаньні, Сталін абгрунтоўваў цяперашнія зьмены ў бальшавіцкай нацыянальнай палітыцы між іншым **„тым, што ўдзельная вага нацыянальных рухаў аказалася больш сур'ёзнай, а шлях задзіночаньня нацыяў — шмат больш складаны, чымся гэта магло здавацца раней, у пэрыяд да вайны або ў пэрыяд да Кастрычніцкай рэвалюцыі".**

У гэтых словах Сталін пацьвердзіў, што нерасейскія народы выявілі магчымасьці аддзяліцца ад Расеі, чаго не спадзяваўся раней Ленін. А прызнаньне Сталінам вялікае ўдзельнае вагі нацыянальных рухаў — гэта вымоўны довад, што зробленыя тады Крамлём уступкі гэным рухам былі выкліканыя патрэбай паважна лічыцца зь сілаю гэтых рухаў. Ня маючы змогі спыніць нацыянальных імкненьняў нерасейскіх народаў, бальшавіком хадзіла пра тое, каб на нейкі час улегалізаваць гэтыя імкненьні, а ўлегалізаваўшы, ськіраваць іх у бальшавіцкае рэчышча. Гэта быў сьмелы выстрал на далёкую мэту.

Тым ня менш, гэты бальшавіцкі выстрал максімальна выкарысталі для нацыянальных мэтаў беларускія патрыёты, дабіўшыся гэткіх вялікіх дасягненьняў, як узбуйненьні тэрыторыі БССР у 1924 і 1926 гадох; як увядзеньне наркамам земляробства Зьмітрам Прышчэпавам нацыянальнай формы земляўпарадкаваньня й землякарыстаньня на Беларусі, калі, замест сельскагаспадарскіх камунаў і вялікіх сёлаў, ён завёў дробнапасялковую й хутарскую сыстэму; як тварэньне беларускіх нацыянальных вайсковых адзінак у складзе чырвонае арміі; ды, нарэшце, як і палітыка беларусізацыі.

Беларусізацыя, што датычыла да ўсіх галінаў культурнага жыцьця Беларусі, пераходзячы навет у сфэру жыцьця палітычнага, галоўна й перш-наперш адбілася ў сфэры мовы. І гэта было цалкам заканамерна з увагі на тое, што русіфікацыйная палітыка царскай Расеі зь ейнымі забаронамі ўжываньня беларускай мовы навет у друку, зусім выціснула беларускую мову з усяго публічнага жыцьця краю, а ў гарадох — навет і з жыцьця прыватнага. Гэткі стан цалкам пераняў у спадчыне ад царскае Расеі і бальшавізм на Беларусі ды навет замацоўваў яго практычна ў першых гадох свае ўлады. Не зважаючы на ўзаконеную ім раўнапраўнасьць беларускае мовы, у савецкай Беларусі да гэнага часу ўсяўладна ў публічным жыцьці краю панавала расейская мова. Таму ціпер з абвешчаньнем беларусізацыі, усе партыйныя пастановы й рэзалюцыі ў нацыянальным пытаньні клалі галоўны націск на моўную беларусізацыю, як перадумову беларусізацыі ў галіне культурнай і палітычнай.

Гэтак у вадным з пунктаў рэзалюцыі, прынятай згаданай XII-ай Усебеларускай партыйнай канфэрэнцыяй у сакавіку 1923 году, казалася: **„Шматвяковае нацыянальнае прыгнечаньне й русіфікатарская палітыка царскага ўраду не далі магчымасьці нармальнага разьвіцьця беларускай культуры. Камуністычная партыя, у поўнай згодзе з усёй праграмай у галіне нацыянальнага пытаньня, павінна ўжыць усе захады да наладжаньня работы на беларускай мове, ствараючы нармальныя ўмовы для разьвіцьця беларускай культуры".**

У ліпені 1924 году адбыўся пленум ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, які прыняў цэлую праграму ў галіне правядзеньня беларусізацыі. У прынятай на гэтым пленуме рэзалюцыі беларуская мова абвяшчалася ўжо ня толькі роўнай у правох з расейскай мовай, але й **„выбіралася як мова пераважная для зносінаў між дзяржаўнымі, прафэсыянальнымі й грамадзкімі арганізацыямі й установамі".** Больш таго, у „Ўвазе" да аднаго з пунктаў гэтае рэзалюцыі было сказана: **„З мэтамі папулярызацыі і ўкараненьня беларускай мовы ў ужытак паміж працоўнымі, усе члены партыі, якія ўладаюць беларускай мовай, павінны пры сваіх выступленьнях ужываць пераважна беларускую мову".** У сувязі з гэтым стаўся папулярным лёзунг, што ўся партыя павінна гаварыць пабеларуску. Гэтая рэзалюцыя ўсім народным камісарыятам БССР вызначала канкрэтныя тэрміны абавязкавага пераходу на беларускую мову ў іхным справаводзтве. Для некаторых наркаматаў і падпарадкаваных ім установаў тэрмін гэты абмяжоўваўся ўсяго адным годам, для іншых — двума гадамі, яшчэ для іншых — трыма гадамі.

У „Увазе" да гэтага пункту рэзалюцыі было сказана: **„Парадак і календарны плян пераходу справаводзтва на беларускую мову ў розных органах і ўстановах распрацоўвае само ведамства, аднак з такім разьлікам, каб у першую чаргу перавесьці на беларускую мову тыя свае органы, установы й арганізацыі, якія непасрэдна сутыкаюцца зь беларускім насельніцтвам".** У „Увазе" да іншага пункту рэзалюцыі казалася, што **„дакуманты агульнасаюзнага значэньня выдаюцца з тэкстаў на беларускай і расейскай мовах".**

Гэткім парадкам, заініцыяваная, кіраваная й ачоленая партыяй беларусізацыя была падхопленая ўсім беларускім грамадзтвам, якое зь нябывалым дасюль энтузіязмам прыступіла да практычнага ўжыцьцёўленьня беларусізацыі ўва ўсіх галінах культурнага, грамадзкага, палітычнага й дзяржаўнага жыцьця Беларусі. Народны камісарыят асьветы абавязаўся ўвесьці абавязкавае навучаньне беларускае мовы ўва ўсіх навучальных установах Беларусі. Для перападрыхтоўкі настаўнікаў былі створаныя адмысловыя курсы беларусаведы. У кожную ўстанову рассылалася навучальная й пэдагагічная літаратура зь беларускае мовы. Саюз працаўнікоў асьветы зрабіў перагрупоўку пэдагагічнага складу школаў — сямігодак і школаў другой ступені, каб у кажнай зь іх выкладалася беларусаведа. У рабфаках, сельскагаспадарскіх і пэдагагічных тэхнікумах, апрача беларускае мовы, было ўведзенае абавязкавае выкладаньне беларускай літаратуры, гісторыі й геаграфіі Беларусі. Інстытуту Беларускай Культуры было даручана апрацаваць беларускую навуковую тэрміналёгію з кажнае галіны веды й расейска-беларускі слоўнік ды акадэмічны слоўнік жывой беларускай мовы. Выдатным дасягненьнем практычным у галіне мовы сталася скліканая Інстытутам Беларускай Культуры ў 1926 годзе акадэмічная канфэрэнцыя дзеля рэформы беларускага правапісу. Пры абсадзе вакантных катэдраў вышэйшых навучальных установаў давалася пяршынство кандыдатам, што ведалі беларускую мову.

Забясьпечвалася на беларускай мове праца хатаў-чытальняў, народных дамоў, клюбаў і бібліятэкаў. Зьвярталася вялікая ўвага на разьвіцьцё на беларускай мове Беларускага Дзяржаўнага Тэатру й тэатральнай студыі ў Маскве, на базе якой зарганізаваўся пазьней Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр у Віцебску. Шырака разгарнулася беларуская краяведная дзейнасьць, а разам зь ёй — інтэнсыўнае зьбіраньне й апрацоўваньне беларускага фальклёру. Разьвівалася выдавецкая дзейнасьць на беларускай мове, пачалі выходзіць на гэтай мове часапісы для дзяцей і працаўнікоў народнае асьветы.

На плённыя вынікі беларусізацыі не давялося доўга чакаць. У хуткім часе ўжо ня толькі беларуская вёска, а й горад загаварыў пабеларуску. Беларуская мова чулася ўсюды: у дзяржаўных і савецкіх установах, у арганізацыях, у прыватным ужываньні інтэлігенцыі. Усюды запанавала беларуская стыхія, запахла ўзапраўды беларускім духам. Беларуская мова й беларуская культура здабылі ня толькі ў тэорыі, але фактычную незалежнасьць з выразнай тэндэнцыяй і пэрспэктывай паступовага пераходу й да незалежнасьці палітычнай.

Гэткі статус і стан моўнае й культурнае незалежнасьці, як раптоўна пачаўся, гэтак раптоўна й быў спынены. XIII зьезд Камуністычнае партыі Беларусі ў 1929 годзе прыняў тэзу аб тым, што беларускі „нацыянал-дэмакратызм — галоўная небясьпека на дадзеным этапе" й вадмену абавязваючага ад 1921 году палажэньня пра „вялікадзяржаўны расейскі шавінізм як галоўную небясьпеку". Неўзабаве пасьля гэтага, замест беларусізацыі, пачынаецца дэбеларусізацыя, што ўсьцяж прагрэсуе аж да сяньняшніх дзён.

Аднак на працягу цэлага савецкага паўстагодзьдзя гэныя шэсьць год беларусізацыі былі адзіным, хоць і вельмі кароткім, адрэзкам часу, калі Беларусь здабыла поўную незалежнасьць у галіне мовы й сваёй нацыянальнай культуры. І хоць ад нацыянальных дасягненьняў гэнага часу вельмі мала чаго засталося, аднак беларусізацыя ўзмоцніла нацыянальную пачуцьцё беларускага народу, зрабіўшы яго больш адпорным на палітыку дэнацыяналізацыі й русіфікацыі ўсіх наступных гадоў. У гэтым вялікае гістарычнае значэньне беларусізацыі.

Ст. Станкевіч



## НЬЮЁРКАЎСКАЯ ПУБЛІЧНАЯ БІБЛІЯТЭКА
### НА 90-ЫЯ ЎГОДКІ ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА

З нагоды леташніх 90-х угодкаў ад нараджэньня карыфэяў беларускай літаратуры й ідэйных правадыроў беларускага нацыянальнага адраджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа адбывалася сёлета ад 1-га сакавіка да 15 травеня ў фае Славянскага Аддзелу Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэкі выстаўка пад назовам: „Янка Купала і Якуб Колас — Барды Беларускай Літаратуры". У разгорнутым прэсавым камунікаце, разасланым рэдакцыям амэрыканскіх і замежных газэтаў у колькасьці 450 экзэмпляраў, у тым ліку й 40 экзэмпляраў, высланых у адпаведныя ўстановы БССР, Публічная Бібліятэка ў Нью Ёрку інфармавала: **„Выстаўка ўшаноўвае памяць дзьвюх індывідуальнасьцяў, чый уплыў на беларускую літаратуру й палітычныя ідэялы Беларускага народу ў мадэрных часох ня меў сабе роўных. Адным з довадаў іхнае велічы й папулярнасьці былі поўныя няўдачы сталінаўскіх спробаў прысабечыць іхныя пазыцыі як нацыянальных правадыроў Беларусі".**

Выстаўка складалася з трох даўгіх вітрынаў, сярэдняя зь якіх была прысьвечаная абодвым паэтам і над якой вісеў на сьцяне вялікі плякат пра выстаўку, што ў зьменшаным выглядзе быў зьмешчаны ў № 191 газэты „Беларус" за сакавік сёлета. Вітрына зь левага боку была прысьвечаная цалкам творчасьці Янкі Купалы, а з правага боку — Якуба Коласа. Над імі віселі вялікія патрэты Янкі Купалы й Якуба Коласа, а ў самых вітрынах на асобных картках былі пададзеныя кароткія біяграфічныя ведамкі пра кажнага зь іх.

У сярэдняй цэнтральнай вітрыне вельмі дарэчы была выпісаная буйнымі літарамі адпаведная цытата з кнігі ў ангельскай мове ведамага заходняга саветалёга Вальтэра Коларжа „Расея й ейныя калёніі", што ў перакладзе на беларускую мову гучыць гэтак:

**„Роля, якую Колас і Купала гралі ў Савецкай Беларусі, ня мае паралеляў па ўсім СССР. Аніводзін беларускі бальшавік ніколі ня браў на сябе ролі нацыянальнага лідэра Беларусаў — лідэрства было ў руках Коласа й Купалы. Заміж таго, каб „зьняць" двух паэтаў, савецкі рэжым стараўся ськіраваць іхнае паэтычнае творства па „правільных каналах" і выкарыстаць іх для камуністычнае прапаганды. Коласа й Купалу часта крытыкавалі, часам яны, здавалася, былі ў няласцы, але ніколі ня зьнікалі, як пазьнікалі шмат якія дасканальныя пісьменьнікі й паэты блізу ўсіх галоўных народаў Савецкага Саюзу. „Вычысьціць" Коласа й Купалу было-б раўназначна банкруцтву савецкае культурнае палітыкі ў БССР, пакольку абодвы былі ня толькі выдатнымі літаратурнымі постацямі, але й фактычнымі культурнымі „абуджальнікамі" свайго народу. Беларусь магла абысьця безь ейных вядучых камуністычных палітыкаў. Колас і Купала аднак былі неад'ёмныя. Іхны выпадак паказаў, што ёсьць межы навет чысткам у Савецкім Саюзе. Чыстку на Беларусі нельга было павесьці аж гэтак далёка, каб падставіць пад небясьпеку культурныя асновы трэйцяга большага народу Савецкага Саюзу. Вось чаму Коласа й Купалу зашчадзілі, не зважаючы на ўсе іхныя „грахі" ды „ўхілы".**

На выстаўцы былі паказаныя важнейшыя з фондаў Бібліятэкі выданьні Купалавых і Коласавых твораў, сярод іх выдадзеныя ў Заходняй Нямеччыне беларускім выдавецтвам „Бацькаўшчына" творы Купалы й Коласа, у тым ліку вялікі выбар Купалавае паэзіі „Спадчына", манумэнтальныя паэмы Якуба Коласа „Новая зямля" і „Сымон Музыка". Апрача гэтага, былі выстаўленыя й важнейшыя літаратураведныя працы пра абодвых паэтаў, выдадзеныя як у БССР, гэтак і на Захадзе, а сярод іх і працы ў заходніх мовах.

Уся выстаўка наглядна й пераконліва інфармавала, што Янка Купала й Якуб Колас — не савецкія й камуністычныя, як іх хвальшыва прадстаўляюць у Савецкім Саюзе, а **беларускія нацыянальныя паэты.**

Выстаўку наведала вялікая колькасьць Амэрыканцаў, асабліва студэнтаў славістыкі амэрыканскіх унівэрсытэтаў. Яе таксама наведалі й сябры савецка-беларускай місіі ў Задзіночаных Нацыях, ёю зацікавілася Інфармацыйная Агенцыя ЗША, пра яе былі прыхільныя водгукі ў амэрыканскай прэсе, а таксама ў прэсе паняволеных бальшавізмам народаў, як украінскі штодзёньнік „Свобода", славацкі тыднёвік „Каталіцкі Сокал" і іншыя.

Роля выстаўкі для прапаганды беларускага імя ў Амэрыцы проста вялізарная. Выстаўка была наладжаная зь ініцыятывы й захадамі сталага працаўніка Бібліятэкі й заступніка кіраўніка ейнага Навуковага Аддзелу Д-ра Вітаўта Кіпеля. Ягоная заслуга была і ў наладжаньні гэткае-ж выстаўкі ў гэтай Бібліятэцы ўвесну 1968 году, прысьвечанай Доктару Францішку Скарыну на 450-я ўгодкі беларускага друку, пачатага ягоным выданьнем у 1517 годзе ў Празе „Бібліі" ў перакладзе на беларускую мову.

Ньюёркаўская Публічная Бібліятэка найбагацейшая ў ЗША з глядзішча на канцэнтрацыю беларусікі. У ёй перахоўваецца значная колькасьць беларускіх выданьняў у БССР у 20-ых гадох, якіх наагул не знойдзіш у іншых бібліятэках на Захадзе, а шмат якія з іх сяньня ў Савецкім Саюзе пад цэнзурнай забаронай. Бібліятэка руплiва камплектуе паважныя беларускія выданьні ў БССР, а апошнімі гадамі гэтае камплектаваньне сталася пляновым і сыстэматычным, што таксама не абыходзіцца бязь інтэнсыўных захадаў Д-ра В. Кіпеля.

Беларускае грамадзтва павінна быць моцна ўдзячнае кіраўніцтву Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэкі, што, даючы ўвагу беларускай кнізе, значна спрычыніецца да папулярызацыі беларускага імя ў заходнім сьвеце.

Ст. Станкевіч

## МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У нядзелю 15 красавіка ў вядомым „Вілшар-Эбэл" тэатры ў Лёс Анджэлесе адбыўся вялікі веснавы фэстываль дзесяці нацыянальных эўрапейскіх групаў, задзіночаных у арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў пад кіраўніцтвам нованывабранага старшыні чэскага паходжаньня Майкла Ван Горна.

У праграме фэстывалю выступалі паасобныя групы, што прадстаўлялі краі свайго паходжаньня: Харваты, Чэхі, Баўгары, Вугорцы, Эстонцы, Літувісы, Беларусы, Палякі, Украінцы й Румыны. Выконваліся пераважна народныя танцы, але былі й выступленьні хораў, салістых і аркестры. Праграма заняла безь перапынку амаль больш за дзьве гадзіны і адбывалася ў ўрачыстых рамках. У глыбіні сцэны тварылі прыгожы фон рад сьцягоў краёў — удзельнікаў праграмы.

Фэстываль пачаўся амэрыканскім гімнам і прысягай сьцягу. Урачыстасьць адчыніў старшыня згаданае арганізацыі, а ў гэты мамэнт наперадзе сцэны сталі прадстаўніцы краінаў-удзельнікаў у нацыянальных касьцюмах зь істужкамі з напісамі назоваў краёў.

Беларуская танцавальная група „Мяцеліца" пад кіраўніцтвам Сп-ні Каці Вініцкай пратанцавала на фэстывалі „Бульбу" ў складзе: Ані й Люсі Вініцкіх, Лізы Арцюх, Ані Стус, Пэт Фрумкін і Карнэлі Найдзюк.

Паміж першай і другой часткай праграмы выступаў з прамовай ведамы прыяцель паняволеных народаў былы тэлевізыйны камэнтатар Робарт К. Дорнан. У часе ўрачыстага заканчэньня фэстывалю ўсе ўдзельнікі праграмы выйшлі на сцэну, а перад імі сталі прадстаўніцы краёў із стужкамі й сьцягамі. Беларусь — на сцэне ізь сьцягам і істужкай прадстаўляла Люся Вініцкая — старшыня мясцовага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.

У прыгожа надрукаванай праграме былі пададзеныя агульныя ведамкі пра краі-удзельнікаў фэстывалю на асобных бачынах з адпаведнымі здымкамі й рэклямамі. У складзе Праграмнага Камітэту пададзены ад Беларусаў Сп. Ч. Найдзюк.

Пад канец праграмы сп. Ван Горн заклікаў прысутных да большага падтрымання падобных імпрэзаў у будучыні й да масавай антыкамуністычнай дэманстрацыі падчас візыты Брэжнева.

Н.

**ПРОСІМ АДНАВІЦЬ ПАДПІСКУ НА 1973 ГОД!**

# СТАГОДЗЬДЗЕ ПАСЭЙКУ

Горад Пасэйк у штаце Нью Джэрзі сёлета жыве ў сэзоне ўрачыстасьцяў: асноўная тэма — стагодзьдзе 1873-1973 гораду. З прыемнасьцяй трэба сказаць, што ў юбілейных сьвяткаваньнях удзельнічаюць і Беларусы. Прадстаўнікі Беларускага Кангрэсавага Камітэту і арганізацыі Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў уваходзяць як у спэцыяльны Юбілейны Камітэт, гэтак і ў розныя імпрэзавыя сэкцыі.

Варта зацеміць, што, нажаль, беларускае грамадзтва мала азнаёмленае зь дзейнасьцяй беларускае калёніі ў Пасэйку. А шкода, бо горад Пасэйк адзін зь нешматлікіх гарадоў Задзіночаных Штатаў, дзе вось блізу 20-х год, дзякуючы дзейнасьці й стараньням сп. Э. Ясюка, дзень 25-га сакавіка адзначаецца як Беларускі Дзень Пасэйку. Шырака ведамая ў Пасэйку дзейнасьць арганізацыі Беларускіх Вэтэранаў на чале із кам. А. Мінчуком і сакратаром сп. С. Жамойдам. У Пасэйку ціраз адбываліся беларускія выступленьні, гарадзкая бібліятэка ладзіла выставы беларускіх убораў і арнамантаў.

Наагул-жа горад Пасэйк у гісторыі пасяленьня Беларусаў у ЗША адыграў немалую ролю. Пасэйк — адзін зь першых гарадоў, куды прыяжджалі Беларусы ад 1887 году. У 1892 годзе ў Пасэйку заснавалася Менска-Гарадзенскае Зямляцтва, а ў 1900 годзе Беларусы дапамагалі пры будаваньні Сабору. Да 1914 году ў Пасэйку пражывала каля 5-х тысячаў Беларусаў.

Нацыянальнае беларускае жыцьцё ў Пасэйку вельмі зактывізавалася напрыканцы 40-ых — напачатку 50-ых гадоў. Тут была зарганізавана школа, царква, ладзіліся розныя культурныя імпрэзы.

Аднак, ня мэта маёй зацемкі — гісторыя Беларусаў у Пасэйку, аб гэтым у васобным артыкуле пазьней. Тут я хачу адзначыць важную падзею Юбілейнага Пасэйку — сьвяточны Парад, які адбыўся 28 красавіка сёлета. Удзельнічала ў парадзе некалькі тысячаў чалавек, што рэпрэзэнтуюць розныя нацыянальныя групы, установы й арганізацыі. Удзельнічала ў парадзе й беларуская група на чале із Арганізацыяй Беларуска - Амэрыканскіх Вэтэранаў. І хоць колькасна група й ня была вялікай, аднак ня ў гэтым справа. Важнасьць палягае ў тым, што Беларусы ўдзельнічалі ў парадзе і маніфэставалі, што тыя „безназоўныя" віленчукі, менчукі і гарадзенцы — нашыя людзі, і мы сяньня выступаем за іх і ад іх усіх. Беларуска-Амэрыканскія Вэтэраны Пасэйку ў парадзе заявілі, што мы, Беларусы, у Пасэйку жывем блізу 100 год. Было прыемна глядзець, калі на галоўнай магістралі гораду дэманстраваліся беларускія сьцягі й лёзунгі, а беларускі транспарэнт нёс прадстаўнік маладзейшага, народжанага тут пакаленьня, упоруч із вэтэранам беларускага палітычнага руху. І магчыма гэтая розьніца векаў — старыя, старэйшыя і маладыя сябры Арганізацыі Беларускае Моладзі ў нацыянальных строях — і прыцягвала ўвагу гледачоў, якія ўзнагароджвалі Беларусаў воплескамі.

Далёка наперадзе беларускае калёны, у нацыянальнай вопратцы і ў спэцыяльнай машыне ехала Місс Беларусія — Пасэйк спадарычня Вера Божка — студэнтка 3-га курсу Ньюёркаўскага Інжынернага Каледжу. Вера Божка рэпрэзэнтавала Беларусаў ужо і ў папярэдніх урачыстасьцях юбілейных сьвятаў, што й адзначалася ў мясцовым друку.

Удзелам у парадзе беларуская грамада ў Пасэйку яшчэ раз задэманстравала сваю актыўнасьць і дзейнасьць. Падзяка належыцца арганізатарам імпрэзы: камандзеру А. Мінчуку, інж. Э. Ясюку, С. Жамойду, Божку, Ляшчуку, спадарыні М. Кіпель, Юрку Кіпелю, ды прыбыламу з Нэварку А. Плескачэўскаму.

**В. Кіпель**

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў ДЭТРОЙЦЕ

Беларуская калёнія ў Дэтройце ўрачыста адзначыла 55-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў нядзелю 1-га красавіка.

Згодна з хрысьціянскім звычаем, сьвяткаваньне пачалося Божаю Службаю ў сваёй собскай беларускай царкве, якую адправіў Высокапраасьвяшчэнны Уладыка Мікалай — настаяцель прыходу ў Дэтройце ў суслужэньні а. Хведара Васілюка. Царкоўны хор пад умелым кіраўніцтвам Сп-ні Веры Артон прыгожым выкананьнем царкоўных напеваў надаў гэтаму, ужо й так урачыстаму дню асаблівае ўрачыстасьці. Уладыка Мікалай у сваёй казані прыгадаў прысутным тых, што й да гэтага часу цярпяць за Бацькаўшчыну, і тых, косьці якіх расьсеяны па ўсёй Беларусі, на Сібіры і ў розных краёх, паняволеных Масквою. Божая Служба закончылася шматгодзьдзем Беларускаму народу й рэлігійным гімнам „Магутны Божа".

Другая частка сьвяткаваньня адбылася ўжо ў залі пад царквою. Урачыстасьць адчыніў старшыня Дэтройцкага Аддзелу БАЗА Юрка Мазура, а дзесяцігадовая піяністка Ната Бакуновіч вельмі добра выканала амэрыканскі гімн. Сп-чня Юля Мазура прачытала праклямацыі Бурмістра гораду Іст Дэтройт (нашага зямляка Сп. Бязручкі), Губэрнатара штату Мічыган, якімі дзень 25 сакавіка абвяшчаўся ў горадзе й штаце Днём Незалежнасьці Беларусі, ды прывітаньні ад сэнатараў і ўрывак з „Кангрэсавага Рэкорду".

Былі прачытаныя прывітаньні ад беларускіх асяродкаў і паасобных дзеячоў, пачынаючы ад прывітаньня Старшыні Рады БНР Д-ра В. Жук-Грышкевіча. Ад асяродку ў Нью Джэрзі асабіста вітала Сакратарка Сэкратару Рады БНР Матушка Марыя, што ў гэтым часе гасьціла ў Дэтройце. Заміж рэфэрату, Праф. Д-р Б. Рагуля сказаў гарачую прамову на тэму дня.

На мастацкую праграму зложыліся песьні й дэклямацыі дзяцей пад кіраўніцтвам Сп-няў Вары Сажыч і Людмілы Бакуновіч, а таксама дэклямацыі Міколы Прускага, Язэпа Пітушкі й Эвы Пашкевіч. Сп. Юя Мазура пад акампаніямант гітары выканаў песьню сваёй кампазыцыі „Расстрэл Сястры", што сымбалізуе зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі чырвонай Масквой.

На заканчэньне дзьве пары з танцавальнага гуртка з Канады пад кіраўніцтвам Эвы Пашкевіч выканалі два беларускія танцы „Юрачку" й „Лявоніху". Маладых танцораў Эву Пашкевіч і Тамару Кулеш ды й старэйшых Язэпа Пітушку й Ралянда Целеша публіка шчодра адбарыла гучнымі воплескамі. Афіцыйная частка сьвяткаваньня закончылася беларускім нацыянальным гімнам.



Удзельнікі мастацкай праграмы

Сьвяткаваньне нацыянальных угодкаў сёлета, як і папярэднімі гадамі, арганізавала Управа Дэтройцкага Аддзелу БАЗА з тэй, аднак, розьніцай, што арганізацыйны бок сьвяткаваньня быў сёлета проста ідэальным. Няхай гэта будзе прыкладам для наступных управаў БАЗА. У арганізацыі сьвяткаваньня не засталіся з боку й жанчыны. Яны ўпрыгожылі залю й падрыхтавалі добры абед, даход зь якога папоўніў касу Аддзелу БАЗА.

Да гэтага часу ў Дэтройце існуе маленькі дзіцячы гурток, што ставіць дзіцячыя пастаноўкі на рэлігійныя й беларускія нацыянальныя сьвяты. У ім ахвотна ўдзельнічаюць Ната, Віктар і Прадслава Бакуновічы й Язэп Сажыч і, як на іхны век, надзвычай добра выконваюць свае ролі. Было-б вельмі добра, калі-б далучылася больш дзяцей і быў створаны свой танцавальны гурток.

Апошняя ўрачыстасьць паказала, што маленькая жменька Беларусаў у Дэтройце мае вельмі добрыя сілы. Дык пажадана, каб у Дэтройце культурныя й мастацкія імпрэзы ладзіліся часьцей. Яны задзіночваюць людзей і ўзгадоўваюць у патрыятычным духу маладое пакаленьне дый старэйшых таксама.

**М. Лахвіч**

# МАСТАЦТВА НА КАЛЯРОВЫМ ЭКРАНЕ

На чародным паседжаньні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, 14 красавіка, спяня Галіна Русак знаёміла прысутных з малярскай творчасьцяй Уладзімера Шыманца. Мастак ад даўжэйшага часу жыве ў Францыі, пад Парыжам. Апошнімі гадамі ён шмат малюе, пераважна тэхнікай хварбаў алейных, бярэ часта ўдзел у малярскіх выстаўках Парыжа. Кагадзе мастак пераслаў для БІНіМ, — для зазнаямленьня з сваёй творчасьцяй і для перахаваньня ў архівах Інстытуту, — больш 120 каляровых дыяпазытываў сваіх абразоў.

Пасьля ўводных даведак пра жыцьцё й малярскую дзейнасьць Ул. Шыманца, сп-ня Г. Русак высьвятліла з дыяпазытываў ягоныя абразы ды дала свае цікавыя заўвагі пра кампазыцыйныя, стылёвыя й калярыстычныя іх асаблівасьці. Паказаныя былі краявіды беларускія, краявіды Францыі, Карсіканскае атокі, натурморты, жаночыя акты, патрэты. Была й цікавая спроба рэканструкцыі, паводля канцэпцыі мастака, першапачатковага выгляду ў XI стагодзьдзі полацкага Сафійскага сабору.

Найбольш увагі рэфэрэнтка прыдзяліла лікам найбагацейшай ды стылістычна найцікавейшай групе абразоў пэйзажнага жанру. Былі ў гэтым віды палёў, лясоў, рачных далінаў, скалістых гораў, замкаў, панарамы беларускіх ды францускіх местаў, іх вуліцы, дамы, сьвятыні.

У мастака бясспрэчна свая, сабе толькі свомая, малярская манера, свой стыль, які найяскравей выяўляецца ў абразох пэйзажных пры адтварэньні дрэваў, лясоў ды прыроды наагул. У стылі краявідаў Ул. Шыманца можна заўважыць пэўную аналёгію з малярскім стылем ведамага францускага мастака Гэнры Руссо ды некаторых маляроў амэрыканскіх. Ад Руссо адрозьнівае яго аднак тое, што расьліннасьць ягоных краявідаў — дрэвы, лясы, пушчы, — не экзатычная, не трапікальная, але, хоць на свой лад і стылізаваная, ды адбівае формы добра мастаку ведамай прыроды родных беларускіх прастораў.

Пасьля рэфэрату завязаўся жывы абмен думак пра асаблівасьці малярскае творчасьці, пра характар таленту ды выдатную прадукцыйнасьць мастака. Было выказанае пажаданьне пазнаёміцца з абразамі Ул. Шыманца беспасярэдня, аглядаючы арыгіналы. Зрэалізаваць гэта магчыма наладзіўшы ў Нью Ёрку выстаўку найбольш характэрных ягоных працаў.

## ГАДАВІК ПРЫГОЖАГА МАСТАЦТВА НА 1972-1973

зьмяшчае ў сабе тры прозьвішчы беларускіх мастакоў у Францыі: Міхася Наўмовіча, Уладзімера Шыманца й Віктара Жаўняровіча. Пасьля прозьвішча Ул. Шыманца зьмешчаная ягоная фатаграфія й жыцьцяпісная зацемка: „Нарадзіўся ў 1911 г. у Рызе (Латвія) з бацькоў Беларусаў. Пасьля звароту ў Беларусь вучыўся ў Вільні. Калі пасьля чужынецкай інвазіі краю змушаны быў эміграваць, выбраў Францыю, як месца жыхарства. Побач пэйзажаў мястэчка Сартрувіль, у ценю званіцы якога ён жыве й малюе, любіць адтвараць у сваіх „Бізонах" ды хваёвых лясох аспэкты дарагой яму бацькаўшчыны". Адзін з абразоў Ул. Шыманца знайшоў месца ў Міжнародным Гадавіку Мастацтва на 1972-73 Макса Фурну, што напрыканцы мінулага году выйшаў у Францыі (бачынаў 612).

## НА СХОДЗЕ Ў БАЎГАРАЎ

У нядзелю 1-га красавіка ў залі чэскага „Сокала" ў Лёс Анджэлесе адбыўся сход Баўгарскага Рэспубліканскага Клюбу дзеля спатканьня з кандыдатамі ў мясцовых гарадзкіх і школьных выбарах. Ад Беларусаў прысутнічаў на сходзе Ч. Найдзюк.

**Н.**

якім прысьвечаны палкія радкі незабытнага Максіма Багдановіча:

У белай пене праносяцца коні, —
Рвуцца, імкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць.

Калі думаеш пра гісторыю Друцку, перадусім варта адцеміць ягоную жыцьцятрываласьць, гэтак характэрную наагул для Беларусі. Усяго праз 34 гады пасьля драпежнага нападу Уладзімера Манамаха ягоны сын Яраполк зноў паланіць дручанаў, засяляючы імі горад Зэльны або цяперашнюю вёску Зялёнава ў 20-ці кілямэтрах ад Смаленску. І Друцк тады ня толькі не заняпаў, але ўмацаваўся яшчэ больш, бо паказальна, што ў 12-м стагодзьдзі былі супраць яго аж два вялікіх адмысловых кааліцыйных паходы, у адным зь якіх, між іншым, удзельнічаў гэрой „Слова аб палку Ігаравым" князь Ігар.

Аднак і гэтае ня зьнішчыла Друцк. Дручане на чале зь Вітаўтам змагаюцца з крыжакамі пад Грунвальдам, а іхні князь Андрэй гіне ў бітве з Татарамі на рацэ Ворксьлі. Ня мінуў у крывавым 1506 годзе Друцк і хан Махмет-Гірэй, але яго атагнаў адсюль князь Астроскі, у сувязі зь якім Бэз-Карніловіч у сваёй вядомай манаграфіі прыгадвае Астапа Дашкевіча зь ягонымі тутэйшымі 200 коньнікамі. Шмат ліха спрычынілі Друцку ў 1534 годзе Расейцы, пасьля чаго ён пачаў паступова заняпадаць. І ўсё-ж канчатковы ягоны заняпад абумовілі ня гэтулькі сталыя войны, колькі тое, што згубілі сваё значаньне ранейшыя гандлёвыя шляхі, на якіх ён і квітнеў, як багаты горад. Гэта-ж праз яго праходзіў Друцка-Лукомскі волак адгалінаваньня „Пуці з Варагаў у Грэкі", а пазьней пралягаў сухазенны шлях зь Вільні на Маскву, па якім праяжджаў вядомы Сыгізмунд Гэрбарштайн.

Як прыпамін аб далёкім і слаўным мінулым, засталося цяпер у Друцку толькі замчышча, якое належыць да найбольшых у Беларусі, займаючы плошчу ў 9 гэктараў, тады калі, напрыклад, у Тураве 5, а ў Полацку, за часы Усяслава Чарадзея, усяго толькі палову гэктара. Яно ўзвышаецца над ракой на 22 мэтры і дагэтуль захаваліся ягоны вал вышынёю ў 10 і роў глыбінёю да 12-ці мэтраў. Для таго часу гэта было моцнае вайсковае ўмацаваньне, што й пацьвярджае кагадзе мной прыгаданая баявая гісторыя Друцку.

Тое-ж усьлед за летапісамі й хронікамі засьведчылі й архэолёгі. Яны таксама давялі, што зьніклы цяпер горад, які ня выпадкова меў у сваіх сьценах аж пяць варот, зьяўляўся адным з эканамічных і культурных цэнтраў тагачаснае Беларусі. Не дарма тут сыпярша ўладарылі другія па старшынству сыны Полацкага князя, а потым іхня нашчадкі князі Друцкія, род якіх, што распачаўся ад Рагвалодавых унукаў, ці Гарыславічаў, існуе дагэтуль.

Радапачынальнікам князёў Друцкіх зьяўляецца князь Рагвалод Барысавіч, стрыечны брат сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы й унук князя Усяслава Чарадзея. На ўзор свайго бацькі князя Барыса, на якім засталіся й Надзьвіньні вядомыя Барысавы камяні з надпісамі й крыжамі, ён пакінуў па сабе на ўсходняй мяжы Друцкага княства слынны Рагвалодаў камень 1171 году, пабарбарску зьнішчаны бальшавікамі ў 1936 годзе. Затое што адзін зь князёў Друцкіх перабег у Маскву, Альгерд паставіў тут на кароткі час свайго сына Зьмітра але неўзабаве зьвярнуў Друцк Друцкім. Прынамся, у „Хроніцы Быхаўца" пад 1401 годам прыгадваецца, што Вітаўт і Ягайла, вяртаючыся ў Літву пасьля заваёвы Смаленску, „прыехалі ў Друцк і былі там на абедзе ў князя Сямёна Дзьмітрыявіча Друцкага". Толькі ў 1508 годзе назаўсёды спакінулі родны Друцк уладары калісьці моцнага княства Друцкага князі Друцкія.

Найбольш спрычыніўся да раскрыцьця падземельных таямніц Друцку вядомы навуковец Л. Аляксееў, які на працягу доўгіх год дасьледваў тутэйшае замчышча. Ён знайшоў сьляды пабудовы мураванае царквы, скончыць якую, на ягоную думку, перашкодзіў чарговы напад заваёўнікаў. Але ці ня ёсьць гэта астанкі тутэйшага сабору, які, паводля запісу ў Друцкім евангельлі, быў пабудаваны ў 1001 годзе і такім чынам зьяўляўся адным з самых старажытных на Беларусі? Л. Аляксееў таксама адкапаў рэшткі гарадзкіх вуліцаў, што мелі маставыя з бярвеньня, аднак асаблівую навуковую каштоўнасьць уяўляюць знойдзеныя ім тут рэчы разнастайнага прызначэньня, якія прыхаваў у сваім культурным пласьце колішні Друцк.

Гэтак кавадлы й малаты, тыгелі й льлячкі, жорны й прасьліцы, нажны й шылы засьветчылі з далячыні стагодзьдзяў працавітасьць старажытных рамесьнікаў. Ад купцоў засталіся вагі зь гіркамі й гандлёвыя плёмбы. Тагачасная культура адбілася ў шахматных з косьці й дрэва вырабленых фігурах, у пісалах або старажытных ручках, у надпісах на прасьліцах „К'НЯЖИН" і „НИКА", што на старагрэцкай мове азначае — перамагай, у знойдзеным рэдкім музычным інструмэнце — аргане і нарэшце ў бронзавай засьцёжцы ад кніжкі, якая вычарпальна даводзіць, што тут яны былі й шанаваліся. Шмат напаткана таксама ювэлірных вырабаў, як залатыя пацеркі й сярэбраныя пярсьцёнкі, бронзавыя й сярэбраныя бранзалеты, нагрудны сьвятарскі крыж з высокамастацкімі рэльефамі абразкамі на ім.

Але найбольш за ўсё адкапана фрагмэнтаў старое грознае зброі, як зялезныя наканечнікі стрэл, дзіды, калчаны, ручкі мячоў, кісьцені й рэшткі панцыраў. Адсюль зусім відавочным зрабілася для нашага гэтак далёкага па часу пакаленьня, што стары Друцк калісьці жыў сваім поўным і цікавым жыцьцём, гэта значыцца — працаваў і змагаўся.

І характэрна што бальшыня з адкапаных тут рэчаў перагукваецца з старадаўнім паданьнем аб коньніках. Гэта шпоры, страмёны й цуглі. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць знойдзеныя Л. Аляксеевам дзьве шпоры, на якіх захаваліся спражкі й кручкі, што прызначаліся для прымацаваньня шпоры да нагі. Трэба зацеміць, што ў гэткім спалучэньні із шпорамі яны нідзе больш на Беларусі архэолёгам не спатыкаліся, а гэтае яшчэ раз даводзіць, якое вялікае значэньне мела ў старадаўнім Друцку коньніца.

Распачаўшы гэты свой нарыс зь летапіснага паданьня, прысьвечанага Друцку, дазвольце скончыць яго прыпамінам пра цікавы твор сучаснае мастацкае літаратуры, якому яно, паводля майго прыпушчэньня, паслужылася падмуркам. Я маю на ўвазе аповесьць Уладзімера Караткевіча „Дзікае паляваньне караля Стаха". Не падлягае сумлеву штучнасьць гэтага самага загалоўку, які арганічна ня лучыцца з творам і, відаць, накінуты аўтару савецкай цэнзурай. Дарма таксама што ягоныя вонкавыя сымпатыі ў ім на баку маладое паступовае шляхты ў ейным змаганьні із старой шляхтай, нібы пазбаўленай усякіх сьветлых чалавецкіх пачуцьцяў, у сваім быццам адзіным імкненьні да палепшаньня собскага дабрабыту. Пэўне-ж летапісец Нэстар менш залежыў ад Уладзімера Манамаха чым Уладзімер Караткевіч ад сучасных тамтэйшых палітычных ваяводаў.

Аднак усё-ж барацьба й жыцьцё тае маладое шляхты атрымаліся ў пісьменьніка надуманымі, пазбаўленымі сьветлаценяў, а часам проста мэлядраматычнымі, кволымі ў параўнаньні з суворымі змаганьнем і сьмерцю старое шляхты, прадстаўнікі якое здаюцца выкутымі зь зялеза. Ня выпадкова й коні ў старашляхоцкіх імклівых рэйдах — айчыннага паходжаньня палескія дрыкганты, прызвычаеныя да лясоў і балотаў Беларусі. І ўсё-ж, ня гледзячы на ціск з боку савецкіх чыньнікаў, ніхто ня ў стане сказаць і аб тых коньніках і аб іхных конях лепш за самога Уладзімера Караткевіча. Зь відавочнымі любоўю й пашанай піша ён аб іх:

„У хвалях слабага празрыстага туману ясна вымалёўваліся сілуэты коньнікаў, якія імчалі шалёным намётам, аж конскія грывы веялі па ветры".

„...проста перада мною і зусім недалёка вымалёўваецца на раўніне туманныя сілуэты коньнікаў. Зноў, як у той раз, бязгучна ляцелі яны перада мною страшэннымі скокамі проста ў паветры. І поўнае маўчаньне, быццам я аглух, весела над імі. Вострыя шлыкі, валасы і плашчы, якія лунаді ў паветры, дзіды — усё гэта адбілася ў маёй памяці".

„Ня бразгаюць цуглі, моўчкі сядзяць у сёдлах прамыя постаці коньнікаў. Вецер развевае іх валасы, плашчы, грывы коняй і самотная гострая зорка гарыць над іхнімі галавамі".

**Юрка Віцьбіч**

# НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**(ПАВОДЛЯ ДАКЛАДУ НА СЬВЯТКАВАНЬНІ 55-х УГОДКАЎ АКТУ 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ)**

( Заканчэньне з папярэдняга нумару)

### 5. СТРАХ ПЕРАД НАЦЫЯНАЛІЗМАМ

Найбольш чулай Ахілесавай пятой савецкага колясу на працягу ўсяго ягонага існаваньня было й ёсьць, ды напэўна-ж і будзе, нацыянальнае пытаньне нерасейскіх народаў. Абарона нацыянальнай існасьці народу перад русыфікацыяй выяўляецца сяньня ня толькі ў зьявах пасыўнага супраціву нацыянальнай палітыцы партыі, але і ў спробах супраціву актыўнага, у спробах адваёўваньня некаторых нацыянальных пазыцыяў, перад якімі змушаная часамі йсьці на некаторыя ўступкі і партыя. У гуманітарных галінах беларусаведнае навукі, у жыцьці культурным, у літаратуры й мастацтве беларуская творчая інтэлігенцыя стойка змагаецца за нацыянальную праўду, за свае нацыянальныя правы. Не дарма ў згаданым сваім леташнім артыкуле першы сакратар ЦК КПБ уважаў за патрэбнае публічна прызнацца ў наступным: „**Нядаўна савецкая грамадзкасьць (чытай: партыя — С.С.) зусім абгрунтавана і справядліва крытыкавала спробы шэрагу навуковых работнікаў і дзеячоў культуры адыйсьці ў сваёй творчасьці ад марксыцка-ленінскіх, клясавых крытэрыяў у паказе гістарычнага мінулага тых або іншых народаў, даць ідэалістычную, а па сутнасьці нацыяналістычную трактоўку некаторых падзеяў даўно мінулых дзён і асоб, месца і роля якіх у гісторыі не заслугоўваюць колькі-небудзь станоўчай ацэнкі. Жыцьцё вучыць, што небясьпечна навет самы нязначны адыход у той або іншы бок ад прамой дарогі разьвіцьця і збліжэньня сацыялістычных нацыяў. Вось чаму КПСС не дапускае ніякага лібэралізму ў адносінах да носьбітаў варожых нам нацыяналістычных, шавіністычных поглядаў і настрояў, у якім-бы абліччы яны ня выступалі**”.

### 6. НАДЗЕЯ НА МОЛАДЗЬ

Піянэрамі нацыянальнае плыні, якая набірае ўжо характар нацыянальнага руху, на Бацькаўшчыне зьяўляецца маладое пакаленьне беларускае творчае інтэлігенцыі. Зьява гэтая заўважаецца ў розных галінах беларускае навукі, культуры й мастацтва. Коратка праілюструем гэтую зьяву на прыкладзе мастацкай літаратуры. Якраз мастацкая літаратура зьяўляецца ў савецкіх абставінах найбольш чулым баромэтрам настрояў і пагляду, як галіна мастацтва, сяродкамі якой найглыбей можна выказаць усякую ідэю.

Калі прааналізаваць у разрэзе веку жыцьця й творчасьці сяньняшнюю беларускую літаратурную грамадзкасьць і ейную рэакцыю на палітычны курс партыі, дык заўважым наступную зьяву. Пісьменьнікі старэйшага пакаленьня, што варыліся яшчэ ў сталінскім соку, у тым ліку й навет бальшыня пісьменьнікаў, што асабіста пацярпелі ад сталінскіх пагромаў, а цяпер рэгабілітаваныя, побач зь некаторымі новымі матывамі ў сваёй творчасьці, усёж ахвотна выконваюць і сяньня ролю партыйнага рупара, служаць партыі ня толькі за страх, а й за сумленьне. Пісьменьнікі сярэдняга векам пакаленьня, што прыйшлі ў літаратуру або напрыканцы сталінскага пэрыяду, або ў першых гадох дэсталінізацыі, у сваёй творчасьці адно ў моц канечнасьці даюць часам толькі адчэпную даніну партыі, а ў васноўным твораць на ўсякія іншыя тэмы й праблемы, у тым ліку й нацыянальныя, што з партыйнасьцяй ня маюць нічога супольнага.

Затое маладое й наймалодшае пісьменьніцкае пакаленьне, што з кажным годам даволі шчодра папаўняе пісьменьніцкія рады, не дае для партыі, за адзінкавымі выняткамі, навет і гэнага адчэпнага. У творах літаратурнае моладзі бадайшто не знайсьці навет словаў камунізм, партыя, Ленін, савецкі, ня кажучы ўжо пра настырліва накіданую прапагандавую трэскатню. Затое галоўным матывам творчасьці маладых — глыбокая патрыятычная любасьць да ўсяго свайго роднага: да свайго беларускага краю, народу, народных традыцыяў, да нацыянальнае мінуўшчыны Беларусі, а над усё — да свае роднае беларускае мовы.

Калі перад 6-м зьездам пісьменьнікаў Беларусі ўвесну 1971 году на бачынах газэты „Літаратура і Мастацтва” была разгорнутая інсьпіраваная зьверху дыскусія пра тое, як павінны пісьменьнікі ўсвядоміць сяньняшні савецкі час, і калі старэйшыя пісьменьнікі, выступіўшы ў дыскусіі, стараліся патрапіць у тон партыйнай лініі, дык прадстаўніца літаратурнае моладзі паэтка Аўгеня Янішчыц, выступіўшы ў дыскусіі таксама, ад імя ўсяе пісьменьніцкае моладзі заявіла: **„Мы павінны ня толькі слухаць час, але і пільней углядацца ў адметныя рысы нашага нацыянальнага жыцьця. І заўсёды адчуваць сваю адказнасьць перад літаратурай і чытачом”.**

Асабліва важна тое, што поўная няўвага й глухата літаратурнае моладзі да партыйнае ідэалёгіі й нацыянальная напоўненасьць ейнае творчасьці, ейны гарачы патрыятызм і свайго роду ўзвышаны культ усяго свайго роднага, ня вынік нейкага арганізаванага палітычнага ўплыву, які, звычайна, лёгка прыходзіць, але лёгка й зьнікае, а мае свае глыбейшыя карэньні. Гэта зьява псыхалягічная, значыцца, арганічная, мацнейшая й глыбейшая. Гэта голас душы лепшае часткі нашае моладзі. І ў гэтым наймацнейшая зарука нашае будучыні.

### 7. У ВАБЛІЧЧЫ НЕДАРЭЧНЫХ СУПЯРЭЧНАСЬЦЯЎ

Шмат каму з нас на эміграцыі здаецца, што даволі каб шчэзнуў бальшавізм і разваліліся савецкая сыстэма, як паняволеныя ёю нерасейскія народы аўтаматычна стануцца вольнымі й незалежнымі. Тымчасам у найлепшым выпадку гэта магло-б быць адно палавінаю дарогі да мэты. Расейскі імпэрыялізм і нацыянальны шавінізм у дачыненьні да заграбленых ім народаў — гэта ня вынаходніцтва бальшавізму, а зьява, перанятая ў спадчыне ад расейскага царызму, адно больш удасканаленая й больш безаглядная й дынамічная ў сваёй інтэнсыўнасьці. Мы ў ніякім выпадку не ўтаесамліваем расейскага імпэрыялізму й палітыкі русыфікацыі з расейскім народам, як гэткім, уважаючы, што карэньні гэтае зьявы выраслі із самой спэцыфікі царскай, а пазьней савецкай палітычна-дзяржаўнай сыстэмы. Тым ня менш неабходна лічыцца з рэальнай загрозай расейскага імпэрыялізму й шавінізму і пасьля эвэнтуальнага развалу бальшавізму. А гэта вымагае ад паняволеных народаў узгодненае й скаардынаванае дзеі адзіным супольным фронтам. Калі ходзіць пра нэгатыўны бок гэтае дзеі, пра змаганьне **супраць** супольнага ворага, дык тут ніякіх прынцыповых супярэчнасьцяў сяньня няма. Затое пазытыўны аспэкт нашага змаганьня **— за што —** ужо сяньня хавае ў сабе вялікія супярэчнасьці, у вабліччы якіх гэны неабходны супольны фронт паняволеных сяньня народаў у дэцыдуючым мамэньце можа аказацца вельмі хісткім.

Гэтыя супярэчнасьці між некаторымі паняволенымі народамі дазволю сабе коратка праілюстраваць на адным асабліва вымоўным прыкладзе, што беспасярэдня датычаць нас Беларусаў і братняга нам лятувіскага народу. Абодвы народы на працягу даўгіх стагодзьдзяў былі суб'ектамі аднае дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, што тварыла найвялікшую мілітарную, палітычную й культурную магутнасьць на цэлым Усходзе Эўропы. Шматвяковая гісторыя супольнага жыцьця абодвых народаў не пакінула прыкладу якіх-небудзь прынцыповых супярэчнасьцяў і канфліктаў між гэтымі народамі.

Пазьней, у пэрыяд нацыянальнага адраджэньня абодвых народаў заўсёды было між імі большае або меншае супрацоўніцтва. У гадох Першае сусьветнае вайны сярод некаторых лятувіскіх і беларускіх палітычных колаў актуальнай была канцэпцыя рэстаўрацыі Вялікага Княства Літоўскага. Было некатарае ўзаемнае супрацоўніцтва і ў пэрыядзе паміж Першай і Другой сусьветнымі войнамі, калі апыніліся мы ў няроўным палажэньні: лятувіскаму народу пашчасьціла збудаваць сваю незалежную дзяржаву, а нас гэтае шчасьце абмінула. Пасьля Другое сусьветнае вайны, калі абодвы нашыя народы спаткала аднолькавая доля, дакладней нядоля, палітычнага супрацоўніцтва між эміграцыямі абодвых народаў няма. Заміж яго, ёсьць непрыязьнь, калі не сказаць варожасьць.

Прычына гэтага ведамая аж надта добра. Ідэя Акту 25 Сакавіка, асабліва ягоны пункт пра тое, што, як сказана ў гэтым Акце, „БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ”, аказалася супярэчнай лятувіскім эміграцыйным колам у іхнай канцэпцыі будучае незалежнае Лятувы. Сяньня ня толькі ў ангельмоўных інфармацыйных брашурках, але і ў працах, што прэтэндуюць да навуковасьці, у залучаных да іх картах і беларускі Горадзень („Гардзінас”), і беларуская Ліда, і Навагрудак і іншыя беларускія гарады, ня кажучы ўжо пра палітычны й культурны цэнтр Беларусі навет у часох ейнага паняволеньня — Вільню, гэта, маўляў, лятувіскія этнаграфічныя тэрыторыі, а ўся палітычная й бадайшто ўся культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага — гэта, маўляў, нацыянальная спадчына лятувіскага народу.

Падобнае штучнае стварэньне супярэчнасьцяў, хай сабе і ў ня гэткай карыкатурна-парадаксальнай форме, заўважаецца і сярод некаторых іншых эміграцыяў. Гаворачы пра эміграцыі, мы поўнасьцяй сьведамы таго, што ня эміграцыі, а народы на Бацькаўшчыне будуць фармаваць сваю долю. Тым ня менш, як паказала сытуацыя ў мамэнт заканчэньня Першае сусьветнае вайны й перабудовы Эўропы, голас эміграцыі ў будаваньні дзяржаўнага жыцьця паняволеных тады народаў далёка ня быў апошнім. Даволі прыгадаць, што першым прэзыдэнтам вольнай і незалежнай Польшчы быў палітычны эмігрант славуты музыка Ігнат Падарэўскі. Першым прэзыдэнтам Чэхаславаччыны быў таксама палітычны эмігрант чэскі патрыёт Тамаш Масарык. Наколькі вялікая роля палітычных эміграцыяў і ейны ўплыў на рост антысавецкіх настрояў у Савецкім Саюзе, найлепш сьведчыць тая вялікая ўвага з боку камуністычнай прапаганды супраць эміграцыяў. Гэта мы бачылі ў прыведзеным вышэй цытаце першага сакратара ЦК КПБ Машэрава пра гэных „лютых нацыяналістычных адшчапенцаў, што дзейнічаюць на імпэрыялістычных задворках”. Падобных выказваньняў камуністычных кіраўнікоў можна прывесьці колькі хаця. Мэтам змаганьня зь беларускай палітычнай эміграцыяй і ейнымі ўплывамі на паняволенай Бацькаўшчыне прысьвяціў вялікую, на 312 бачынаў друку, згаданую сваю працу, што прэтэндуе да навуковасьці, беларускі партыйны тэарэтык Яфрэм Карнейчык „Беларуская нацыя”, выдадзеную ў Менску летась. У „Уводзінах” да гэтае працы Карнейчык піша: **„Гэта дасьледаваньне будзе садзейнічаць справе выкрыцьця буржуазна-нацыяналістычнай зарубежнай агентуры імпэрыялізму, якая імкнецца шляхам ідэалагічных дывэрсій і паклёпу на беларускі народ зганьбіць брацкае яднаньне і непарушную ленінскую дружбу народаў Савецкага Саюзу”.**

### 8. ІДЭЯ ДРУЖБЫ НАРОДАЎ

Сяньня, калі ўсякая свабодная думка на Бацькаўшчыне скаваная, а палітычная думка, супярэчная партыі, навет не да падуманьня, усякія вызвольныя канцэпцыі могуць фармавацца адно на эміграцыі.

Галоўным і асноўным заданьнем палітычных эміграцыяў паняволеных народаў — вытварыць гэткую ідэйную канцэпцыю нашае будучыні, у якой маглі-б быць развязаныя ўсе нашыя супярэчнасьці. Існасьць і форму гэткае канцэпцыі падказвае нам сяньняшняя рэчаіснасьць на Бацькаўшчыне. Панявольнай канцэпцыяй на Бацькаўшчыне сталася сяньня накінутая згары канцэпцыя г. зв. ленінскае, як перад ёю — сталінскае, дружбы народаў, канцэпцыя пэрфідна-хвальшывая. Савецкая канцэпцыя дружбы народаў вызначае ўсім нерасейскім народам ролю малодшых братоў пад панаваньнем над імі „старэйшага брата”. Хвальшывай бальшавіцкай канцэпцыі, панявольнай канцэпцыі мы павінны супрацьпаставіць вызвольную канцэпцыю запраўднай дружбы народаў без якой-бы там ня было градацыі, без малодшых і старэйшых братоў. Мы павінны стварыць гэткую канцэпцыю дружбы народаў, у якой змаглі-б быць лёгка развязаныя ня толькі гэныя ўяўныя, але й рэальныя супярэчнасьці і якая сталася-б фундамантам нашага супольнага вызвольнага фронту, а пасьля перамогі — гэткім-жа фундамантам нашага вольнага й незалежнага жыцьця.

Сг. Станкевіч

# МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕЙНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

## НА СЛУЖБЕ РУСЫФІКАЦЫІ

Савецкая прапаганда хваліцца, што на Беларусі, падобна як і ў іншых саюзных нацыянальных рэспубліках, вялікая ўвага даецца Камуністычнай партыяй масавай культурнай і мастацкай дзейнасьці сярод гарадзкога й сельскага жыхарства. Аднэй з найбольш пашыраных формаў гэтае дзейнасьці — шырака разбудаваная мастацкая самадзейнасьць. Яе складаюць: народныя тэатры, як вышэйшая форма самадзейных і збліжаных сваім узроўнем да прафэсыйных тэатраў, самадзейныя тэатральныя гурткі, хоры, гурткі народных танцаў, ансамблі песьні й танцу і г. д.

Апрача звычайных тэатральных пастановак і канцэртаў, у БССР праводзяцца кажнага году й рэспубліканскія агляды або фэстывалі мастацкай самадзейнасьці, якія, як правіла, складаюцца зь некалькіх тураў. Першай зь іх бывае мясцовая тура ў калгасах і саўгасах, на прамысловых прадпрыёмствах і навабудоўлях, у вышэйшых навучальных установах. Лепшыя канцэрты й тэатральныя пастаноўкі гэтае туры, выбраныя прадстаўнікамі раённых дамоў народнай творчасьці, пасылаюцца да ўдзелу ў другой туры — раённай, адтуль узноў-жа найлепшыя вылучаюцца абласнымі дамамі народнай творчасьці да ўдзелу ў абласной туры. Апошняй і завяршальнай турай бывае рэспубліканскі агляд у Менску, у якім прыймаюць удзел найлепшыя самадзейныя калектывы, што выступалі на абласных аглядах або фэстывалях.

З другой палавіны леташняга году праходзіць на Беларусі ўва ўсіх сваіх турах рэспубліканскі фэстываль мастацкай самадзейнасьці, прысьвечаны 50-м угодкам СССР. Ён закончыўся рэспубліканскай турай і дэкадай самадзейнага тэатральнага мастацтва ў Менску ў канцы сакавіка — пачатку красавіка сёлета. Падсумаваньнем гэтае дэкады і ўсяго фэстывалю была праведзеная адразу-ж пасьля дэкады канфэрэнцыя рэжысэраў народных тэатраў, мэтадыстых дамоў народнай творчасьці й дамоў мастацкай самадзейнасьці з дакладам мастацтваведа Сяргея Пятровіча пра вынікі фэстывалю.

Калі меркаваць паводля статыстычных дадзеных, падаваных у друку, дык можна падумаць, што масавае самадзейнае мастацтва разгорнутае на Беларусі нязвычайна шырака й становіць сабой вельмі важны фактар у культурным жыцьці народу. Сяргей Пятровіч у сваім згаданым дакладзе падаў, што ў фэстывалі прыймала ўдзел аж 36 тысячаў самадзейных калектываў, а сярод іх больш за пяць тысячаў самадзейных тэатральна-драматычных гурткоў і звыш трох тысячаў агітацыйна-мастацкіх брыгадаў. Як паінфармаваў, адчыняючы дэкаду, намесьнік міністра культуры БССР Р. Мачулін, у фэстывалі прыняло ўдзел па паўміліёну артыстычных аматараў і было дадзена звыш 800 тысячаў канцэртаў. Як на рэспубліку зь 9-цю мільёнамі жыхарства, гэта ўзапраўды астранамічныя й вельмі мала верагодныя лічбы. Трэба думаць, што значная частка самадзейных мастацкіх калектываў з гэнае вялізарнае колькасьці існуе толькі на паперы.

Але ўлічваючы навет і гэта, агульная колькасьць дзейных гурткоў мастацкай самадзейнасьці самых розных профіляў усё-ж у рэспубліцы вялікая. Можна было-б узапраўды ганарыцца імі, калі-б іхная дзейнасьць разьвівалася нармальна, свабодна й незалежна ад накіданых партыяй у абавязкавым парадку прапаганда-палітычных дырэктываў. Бяда, аднак, у тым, што галоўнай мэтай самадзейнага мастацтва ня гэтулькі разьвіцьцё самога мастацтва, як гэткага, і не павышэньне культурнага ўзроўню насельніцтва й задавальненьне ягоных эстэтычных патрэбаў, колькі ідэйна-палітычнае ўзгадаваньне народных масаў ды агітацыя за выкананьне й перавыкананьне вытворчых плянаў 9-й пяцігодкі й павышэньне прадукцыйнасьці працы.

Прыкладам, гэныя звыш трох тысячаў агітацыйна-мастацкіх брыгадаў, што прыймалі ўдзел у апошнім фэстывалі, як паказвае ўжо іхная назоў, служаць выключна мэтам палітычнае агітацыі й прапаганды. На чыста палітычны й прапагандава-агітацыйны аспэкт мастацкае самадзейнасьці паказвае й тое, што кажны гадавы рэспубліканскі ейны фэстываль, як правіла, бывае прысьвечаны савецкім палітычным угодкам або важным палітычным падзеям дадзенага году. Гэтак, пачынаючы ад 1967 году, паасобныя фэстывалі былі прысьвечаныя: 50-м угодкам Кастрычніцкай рэвалюцыі, тады 50-м угодкам стварэньня БССР і Камуністычнай партыі Беларусі, 100-м угодкам ад нараджэньня Леніна, XXIV зьезду Камуністычнай партыі і апошні леташні-сёлетні фэстываль — 50-м угодкам СССР. Прысьвячэньні гэтыя ня толькі чыста фармальныя. Яны датычаць і да рэпэртуарнага зьмесьту кажнага з фэстываляў.

Дый гэта яшчэ ня ўсё. Чыста палітычныя мэты мае яшчэ й тая зьява, што партыя цераз установы культуры й самадзейнага мастацтва намагаецца несьці беларускаму народу не ягонае нацыянальнае мастацтва, пабудаванае на народных нацыянальных традыцыях, не мастацтва ў ягонай роднай мове, а г. зв. мастацтва савецкае на базе расейскай мовы.

Гэты пераход самадзейнага мастацтва зь беларускай на расейскую мову й зь беларускага нацыянальнага рэпэртуару на г. зв. рэпэртуар савецкі, а фактычна расейскі, фарсуецца і ўжыцьцяўляецца перш-наперш выдавецкай палітыкай БССР.

Гэтак пры вялікім голадзе на беларускі песенны рэпэртуар для мастацкай самадзейнасьці й прафэсыйных хораў цэлых пятнаццаць год ляжаў у папцы цалкам падрыхтаваны да друку Рыгорам Шырмам том беларускіх народных песьняў і толькі пад ціскам грамадзкае думкі быў ён выдадзены пазалетась мізэрным тыражом дзьве тысячы экзэмпляраў. Затое яшчэ ў 1965 годзе выдавецтва „Беларусь” выдала для патрэбаў мастацкай самадзейнасьці Беларусі стотысячным тыражом вялікі, бо на 240 бачынах друку, зборнік песьняў „Сэрца сьпявае”, але. . . выключна на расейскай мове. У зборніку гэтым, апрача расейскіх, цімала й беларускіх народных песьняў ды песьняў на словы беларускіх паэтаў, між імі й цудоўная песьня на словы Максіма Багдановіча „Зорка Вэнэра”, але ўсе яны ў перакладзе на расейскую мову. Рэцэнзуючы гэты зборнік у газэце „Літаратура і Мастацтва” ў 1966 годзе, М. Пацэнка сьцьвердзіў, што пераклады беларускіх тэкстаў на расейскую мову вельмі недакладныя й неахайныя.

Не зважаючы на гэта, зборнік „Сэрца сьпявае” быў у 1967 годзе перавыдадзены ўзноў стотысячным тыражом у гэтым-жа заганным перакладзе на расейскую мову. Як падае ў сваім выдавецкім пляне выдавецтва „Беларусь”, сёлета зборнік гэты выйдзе трэйцім выданьнем таксама на расейскай мове тыражом ужо 150 тысячаў экзэмпляраў. Значыцца, галоўны рэпэртуарны зборнік для мастацкай самадзейнасьці Беларусі на расейскае мове „Сэрца сьпявае” ўва ўсіх трох ягоных выданьнях складае разам 350 тысячаў экзэмпляраў супраць усяго 2-ох тысячаў экзэмпляраў аналягічнага зборніка на беларускай мове — „Беларускіх народных песьняў” Рыгора Шырмы!

Іншы прыклад. Мэтадысты Карэліцкага раённага Дому культуры Мікалай Дулуба ў лісьце ў рэдакцыю газэты „Літаратура і Мастацтва” ў 1971 годзе скардзіўся: **„Усе клюбы рэспублікі выпісваюць часапісы „Молодежная эстрада”, „Клуб и художественная самодеятельность”, „Культурно-просветительная работа” — часапісы ўсесаюзныя, рэпэртуар, які яны друкуюць, для нашай беларускай сцэны ня вельмі возьмеш. А вось падобных беларускіх часапісаў няма!”** З гэтага Мікалай Дулуба робіць наступную выснову: **„Без сваіх, беларускіх мэтадычных распрацовак, рэпэртуарных зборнікаў ня можа разьвівацца наша мастацкая самадзейнасьць”.**

Яшчэ адзін прыклад. Згаданы мастацтвавед Сяргей Пятровіч летась у менскай „Зьвязьдзе”, пішучы пра народныя тэатры Беларусі,

(Заканчэньне на 6-й бачыне)

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# "ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ МУЗЫКІ"

## ПРА ШТО Й ПРА КАГО НЕ НАПІСАНА У КНІЗЕ

**Першая й адзіная праца**

Кніга пад такім назовам выдадзеная ў Менску ў 1971 годзе выдавецтвам „Вышэйшая школа". Гэта — першая і пакуль што адзіная праца падобнага зьместу, на падставе якое чытач мусіць скласьці закончаны вобраз працэсу станаўленьня й разьвіцьця беларускай прафэсійнай музыкі. Аўтары кнігі — калектыў пэдагогаў катэдры музыкаведы Беларускае Дзяржаўнае Кансэрваторыі — ахапілі ў сваёй працы ўсе разьдзелы музычнай культуры, ад простае народнае песьні да складанага жанру опэры і сымфоніі, насыцілі кніжку багатым фактычным матар'ялам і шматлікімі нотнымі прыкладамі, успомнілі імёны музыкаведаў і кампазытараў, якія яшчэ нядаўна былі „табу": Ю. Дрэйзіна, Ул. Тэраўскага, М. Зінчука, А. Туранкова. Але напісаць гістарычную працу ў савецкіх умовах — справа ня лёгкая. Аб'ектыўнасьць у асьвятленьні тэмы адсоўваецца на задні плян накінутай зьверху партыйнай ідэалягічнай дырэктывай, і такая партыйная цэнзура шмат у чым зьніжае вартасьць кніжкі.

**Пра мінуўшчыну — паказёненаму**

Добра разумеючы, што беларуская савецкая музыка не паўстала на пустым месцы, аўтары пачынаюць кніжку гістарычным экскурсам у мінуўшчыну беларускага народу. Гэты разьдзел кнігі напісаны ў поўнай згодзе з казённай гістарыяграфіяй БССР, паводля якой Беларусы гістарычна й нацыянальна вырасьлі з адзінае рускае народнасьці і эпоха Вялікага Княства Літоўскага згадваецца толькі як час панаваньня іншаземных захопнікаў, і гэтым зусім ігнаруецца паважны этап у разьвіцьці беларускага музычнага мастацтва, якое аўтары кнігі цесна ўплятаюць у гісторыю культуры старажытнае Русі. Стан бездзяржаўнасьці беларускага народу, паводля іхнай канцэпцыі, заканчваецца толькі з рэвалюцыяй 1917 году, і гісторыю беларускага прафэсійнага музычнага мастацтва яны пачынаюць толькі ад гэнай даты. Спрэчны й тэзіс аб вялікай ролі ў фармаваньні беларускага параволюцыйнага песеннага фальклёру расейскіх рэвалюцыйных песьняў і прыпевак-частушак — жанраў, занесеных на Беларусь, зусім чужых і вельмі далёкіх інтанацыйным зьместам ад стылю беларускіх народных песьняў. Разглядаючы ўсе падзеі беларускага музычнага жыцьця праз прызму партыйнага кантролю, аўтары зусім ігнаруюць, або падаюць ня ў поўным аспэкце буйныя постаці беларускае музыкі, якія з правам можна ўважаць за аснавальнікаў беларускае музычнае культуры.

**Мікола Равенскі (1886-1953)**

Пералічаючы зьбіральнікаў і дасьледнікаў народных песьняў, зусім ня згадваецца найвыдатны беларускі музычны дзеяч, кампазытар, пэдагог, хормайстар, этнограф і вялікі знаўца народнай песьні — Мікола Равенскі. Ён сабраў для Інстытуту Беларускай Культуры, а пасьля для Беларускай Акадэміі Навук, супрацоўнікам якое быў даўгія гады, нязьлічаную колькасьць фальклёрнага матар'ялу і выдаў у 20-х гадох адзін з першых зборнікаў народных песьняў. Прапагандуючы сапраўды беларускае мастацтва, Равенскі атрымаў ярлык „нацдэма" і творчая дзейнасьць яго не магла поўнасьцяй разгарнуцца ў савецкіх умовах. Памёр Равенскі далёка ад бацькаўшчыны, у Бэльгіі, да канца свайго жыцьця нястомна працуючы над самымі разнастайнымі жанрамі твораў, пабудаваных на народнай аснове. На вялікі жаль, гэтыя творы яшчэ чакаюць на выдаўца.

1920-ыя гады былі пэрыядам, калі ў сувязі з адыходам бальшавікоў на пазыцыі НЭП-у і лібэралізацыяй палітыкі ў дачыненьні да мастацтва, кампазытары шырака выкарыстоўвалі ў сваёй творчасьці фальклёр, народны быт, фантастыку, сымбалічнасьць, і адным зь лепшых узораў гэтага кірунку служыць музыка Ул. Тэраўскага да п'есы Я. Чарота „Купальле", поўнае лірыкі народных абрадаў і звычаяў. Гэтаму твору, што паклаў фундамант беларускай нацыянальнай опэры, і Тэраўскаму аўтары кнігі прысьвячаюць зусім мала месца. Зусім ня згадваецца, прыкладам, ведамы зборнік Тэраўскага „Беларускі лірнік", выдадзены ў Бэрліне ў 1922 годзе. Уладзімер Тэраўскі, зь імём якога зьвязаная цэлая эпоха беларускага культурнага жыцьця, у сувязі з наступам у 30-х гадох на беларускае нацыянальнае мастацтва, быў арыштаваны як „нацдэм" і загінуў у вязьніцы, а творы ягоныя былі забароненыя.

**А. Туранкоў (1886-1958)**

Імя аднаго із старэйшых беларускіх кампазытараў А. Туранкова сустракаецца ў кнізе шмат разоў. Пералічаючы ягоныя творы, апошні зь іх — опэра „Яснае сьвітаньне" (1958) навет дэтальна разглядаецца, з нотнымі прыкладамі і заўвагай, што „сур'ёзныя музычнадраматургічныя пралікі" перашкодзілі гэтаму твору ўтрымацца ў рэпэртуары опэрнага тэатру БССР. Трагічным эпілёгам загубленага творчага жыцьця кампазытара сталася гэтая опэра. Туранкоў быў выдатным майстрам беларускае песьні. Ягоныя апрацоўкі адзначаюцца асаблівай сардэчнасьцяй, цяплынёй, шчырасьцяй і мяккай лірычнасьцю. Гэткія-ж рысы ўласьцівыя й ягоным уласным творам. Цудоўная беларуская лягенда М. Чарота натхніла яго, як і Тэраўскага, на стварэньне опэры „Кветка шчасьця". Але адсутнасьць тэмы клясавага змаганьня й сялянскіх паўстаньняў выклікала зьвінавачаньне ў апалітычнасьці, і кампазытар мусіў зноў і зноў перарабляць опэру, каб задаволіць партыйную цэнзуру, прыцягваючы ў музыку зусім не ўласьцівыя ягонай творчай мэнтальнасьці гэроіку й манумэнталізм. Толькі ў цяжкі, жорсткі час поўгалоднага існаваньня ў часы нямецкае акупацыі, Туранкоў здолеў аднавіць сваю опэру пад назовам „На Купальле", адкінуўшы ілжывую тэндэнцыйнасьць і поўнасьцяй захаваўшы пяшчотную лірыку народнае казкі. Апынуўшыся йзноў пад савецкай уладай, Туранкоў мусіў дорага заплаціць за кароткі час вольнае творчае працы. Высланы ў канцэнтрацыйны лягер, як „вораг народу", Туранкоў на доўгія гады быў выкрасьлены зь ліку жывых і толькі пасьля 1955 г. амнэставаны кампазытар, хворы і зьнясілены, ізноў улучаецца ў музычнае жыцьцё БССР. Каб заслужыць права на йснаваньне, ён на партыйнае заданьне, піша опэру „Яснае сьвітаньне" на тэму задзіночаньня Заходняй Беларусі з БССР. Рэвалюцыйная патэтыка й казённая гэроіка сюжэту не маглі захапіць кампазытара і няма нічога дзіўнага, што опэра не ўдалася і выклікала шмат крытычных закідаў. Маральна зруйнаваны, кампазытар памёр хутка пасьля няўдалай прэм'еры опэры ў 1958 годзе.

**М. Куліковіч-Шчаглоў (1897-1969)**

Калі пра Туранкова ўсё-ж сёе-тое напісана, дык імя другога выдатнага прадстаўніка беларускае прафэсійнае музыкі, кампазытара, музыкалёга-этнографа, пэдагога й дырыгента Міколы Куліковіча-Шчаглова засталося зусім „забытым" аўтарамі кнігі. Творчая дзейнасьць Куліковіча тымчасам абыймае ўсе жанры (апрацоўкі народных песьняў, рамансы, камэрная музыка, духоўныя творы, сымфоніі й опэры) і можа служыць прыкладам бязупыннай і ўпартай працы над праблемай народнасьці ў музыцы. Самабытнасьць творчай індывідуальнасьці, тэхнічную дасканаласьць, шуканьне новых сродкаў музычнай выразнасьці — усё гэта кампазытар падпарадкоўвае імкненьню як найглыбей прасякнуць у самую існасьць беларускага народнага мэлясу, што складае душу й цела ягонае творчасьці. Высокай тэхнічнай сьпеласьцяй і шматкаляровай палітрай эмоцыяў адзначаныя буйныя творы Куліковіча, асабліва ягоныя опэры: „Кацярына" (1939), „Лясное возера" (1942) і „Усяслаў Чарадзей" (1943). Музыкалёг вялікай эрудыцыі, ён пакінуў шэраг навуковых працаў, музычна-этнаграфічных дасьледаваньняў („Беларуская песьня", „Беларуская музыка", „Беларуская савецкая опэра" і іншыя).

**Рыгор Самохін (1911-1943)**

Катэдру кампазыцыі пры Беларускай Дзяржаўнай Кансэрваторыі ў Менску даўгі час узначальваў ведамы расейскі кампазытар, вучань Рымскага-Корсакава — В. Залатароў, які выхоўваў сваіх вучняў (Багатырова, Падкавырава, Лукаса, Алоўнікава і інш.) на традыцыях расейскае музычнае клясыкі. Аўтары кнігі абыйшлі маўчаньнем вучня А. Залатарова, найбольш беларускага кірунку творчасьці, што скончыў кансэрваторыю ў 1937 годзе, кампазытара Рыгора Самохіна, які памёр у Менску ў часе нямецкай акупацыі. Зважаючы на кароткі жыцьцёвы шлях, Самохін — можа найбольш здольны з усіх вучняў Залатарова — пакінуў шэраг твораў самага разнастайнага зьместу й формы, ад шматлікіх мастацкіх апрацовак народных песьняў да буйнае сымфоніі. Добрае знаёмства яшчэ зь дзіцячых гадоў зь беларускай песьняй і шчырая любасьць да яе забясьпечылі цесную сувязь творчае індывідуальнасьці кампазытара зь нявычэрпнай скарбніцай народнага мастацтва. Вялікую ролю адыграў Самохін як заснавальнік і кіраўнік цымбальнага ансамблю, стварыўшы для яго шмат кампазыцыяў, у тым ліку вельмі папулярную ў перадваенным часе „Сюіту для цымбальнага ансамблю".

**Алесь Спаскі, Валынчык ды інш.**

Цікавым кампазытарам ваеннага часу быў Алесь Спаскі, які працаваў у Баранавічах загадчыкам музычнае школы. Усебакова адукаваны музыка, ён пакінуў апрацоўкі беларускіх песьняў, рамансы на словы беларускіх паэтаў і сымфанічныя творы: „Нёман", „Танцавальная сюіта" ды нясконачаная вялікая сымфонія на беларускія тэмы. Музыка гэтых твораў, якія, відаць, загінулі ў часе ваенные завірухі, адзначалася тонкасьцяй нюансаў, індывідуальнай арыгінальнасьцяй і наватарствам у галіне гармоніі. У кнізе не названа таксама й імя кампазытара Валынчыка з Навагрудку, гарманізатара беларускае песьні, аўтара рамансаў на тэксты беларускіх паэтаў і музычнай казкі „Чорт і баба" на лібрэты К. Сваяка (1928 г.). Партыйны кантроль налажыў сваё вэта і на ўсе імёны прафэсараў і дацэнтаў Беларускае Дзяржаўнае Кансэрваторыі, а таксама салістых-сьпевакоў опэрнага тэатру, якія засталіся ў Менску ў часы нямецкай акупацыі.

* *
*

Мы прыгадалі дзеячоў беларускае музычнае культуры, якія гэтую культуру будавалі й імёны якіх непарыўна зь ёю зьвязаныя, а іхныя творы сталіся вехамі на шляху стварэньня беларускае нацыянальнае музычнае школы. У кнізе для іх не знайшлося адпаведнага месца, яны сталіся ахвярамі партыйнае палітыкі. Таму кніга не дае магчымасьці чытачу скласьці поўны й праўдзівы абраз гісторыі разьвіцьця музычнага мастацтва ў Беларусі. Таму ў кнізе скамечаная цікавая й зьместоўная гісторыя стародаўнай і дарэвалюцыйнай беларускай музыкі, а ўсе дасягненьні ў музычнай галіне тлумачацца ўплывамі „рэалістычных традыцыяў" расейскага музычнага мастацтва. Хоць кніга больш сьмела чым раней ставіць пытаньне пра беларускі нацыянальны стыль у музычным мастацтве, афіцыйны курс партыйнай палітыкі застаецца вядучым і ўсё беларускае музыказнаўства яму падпарадкавана. Тымчасам вельмі мала шансаў на тое, што імкненьне да беларускасьці, да нацыянальнага калярыту ў музыцы, пра якое гавораць ў кнізе, на дыскусіях і канфэрэнцыях беларускіх музыкаведаў і кампазытараў із стану патэнцыяльнае энэргіі ператворыцца ў кінэтычную і дасьць поўнавартасныя мастацкія вынікі.

**Алесь Карповіч**

# З КНІГІ: "ВЯЧОРКІ ДЗЕДА САМУЙЛЫ"

## 2. ЯК ДЗЕД САМУЙЛА З "ЛАДАЮ" СУСТРЭУСЯ

Тры тыдні, як зьнік недзе Дзед Самуйла. Зьбірацца, то ўсе зьбіраліся й безь яго, але неяк усё ня клеілася. І гутарка ня лілася, і кава, хоць і лілася, ды нядухмяная. Пагалоска пайшла, быццам Дзеда ў Крым на адпачынак выпадзілі, а адзін дурань, што вельмі ўжо кампэтэнтным выглядаць хацеў, плёў навет, што Дзед Самуйла ў Амэрыцы. Але хто-ж яму дасьць веры?

І вось нарэшце Дзед Самуйла аб'явіўся. Пасьвяжэў крыху, загараў чуток, і навет неяк быццам падбадзёрыўся. Кампанія зараз-жа зьлячелася.

— Добра вам, кажа Інтэлігент у Акулярах, — вы, Дзед Самуйла, турыстым зрабіліся, а вось я, бачыце, хацеў зьезьдзіць гэткім турыстым за мяжу куды-небудзь, дванаццаць фотакартак свае асобы ў ваддзел кадраў здаў, асабістую справу ў трох экзэмплярах запоўніў, грошай пяцьсот рублёў унёс, і ўсё бяз выніку. Тры месяцы чакаю. Лепш ужо сказалі-б, што нельга, дык я-б і супакоіўся, — Інтэлігент у Акулярах уздыхнуў і зьняў акуляры, каб шкельцы працерці. Навет усе перазірнуліся — такі нязвычайны выгляд у яго зрабіўся. Быў ён у гэты мамэнт Інтэлігентам без Акуляраў.

— Бачыце, — Дзед Самуйла зручней усеўся і гаварыць наладзіўся.

Боцман Уладзімер Ільіч хуценька шчаку рукой падпёр і вока правае як кот прыжмурыў. Настаўнік каву разьліваць пачаў.

—Дык вось бачыце,— Дзед Самуйла гляну ў на Старога Партыйца, што вельмі паважаў подзвіг Паўліка Марозава й да жыцьця яго даволі часта прыкладаў. — Дык вось, здарылася так, што нікуды я ня зьбіраўся, аніякіх дакумэнтаў не запаўняў, а паехаў во аж навуковым турыстым у Амэрыку. Пытаецеся як? Пуцёўка была на інстытут наш, дзе я за начнога вартаўніка працую, выдзеленая. Дык адзін небарака-вучоны таксама, як Інтэлігент наш у Акулярах, зьбіраўся, а ў апошні момант адмоўлена яму было. Прычыны ён і цяперака ня ведае, але чалавек ён навуковы, мо падумаў, што ня так, ці мо выявілася, што бабка ягоная да Кастрычніцкай рэвалюцыі абыякава паставілася. Адным словам гэтаму вучонаму ехаць ня выйшла , а другога вучонага правяраць — часу няма трэба. А перад кіраўніцтвам інстытуту праблема: не пашлі нікога — наступны раз пуцёўкі ня выдзеляць. Дык вось жэраб'е на мяне і ўпала. Выклікалі мяне ў мясцком ды кажуць:

— Тут навукова-турыстычная пуцёўка ў Амэрыку гарыць, дык можа самі, Самуйла Максімільянавіч, паедзеце? Пуцёўка семсот рублёў каштуе, але вам мы яе зусім дарма дадзём. Прэзэнт ад кіраўніцтва гаспадару зямлі — рабочаму класу, кажуць. Правяраць вас таксама ня трэба, чалавек вы просты, нікому не патрэбны.— Думаў жарты жартуюць, ды не. Дык во й паехаў я навуковым турыстым. У Маскве нас такіх чалавек дваццаць назьбіралі. Зь іншых інстытутаў прафэсары, дацэнты, выгляд такі важнецкі. Але й я пузам у гразь ня цаў, у суседа камізэльку-жылет пазычыў, што ад часоў НЭП'у ў шафе вісела. Пэнснэ ў камісійным магазыне купіў. Адным словам, калі не на прафэсара, то на дацэнта выгляд меў. А з Амэрыканцамі яшчэ прасьцей, чымся із сваімі. Дзе прамоўчу, а дзе дзяўчынка-перакладчыца за мяне адкажа. Ну, а што да самой Амэрыкі, то ўражаньняў вельмі шмат было, толькі першым чынам раскажу я вам адно, як я на выстаўцы аўтамашынаў у Нью Ёрку быў. Пасьля ўсякіх там навуковых паседжаньняў ды сымпозыюмаў розных там, пачалі нас па музэях і выстаўках цягаць.

Аднаго дня, гэтак пад сярэдзіну красавіка недзе, сабралі нас ды ў Гілтан гатэль вядуць. Там, кажуць, 17-ая Міжнародная аўтамабільная выстаўка, то й нашую савецкую машыну „Ладу" пабачыце. Разгарнуў я на дарозе прашпэкты, што нам надавалі, і цікаўлюся:

Чым-жа можа падчапіць амэрыканскага пакупніка „Лада"? Невялічкая машынка, пішуць, створаная на базе марк „Жыгулі", а калі крышачку глыбей капнуць — дык на базе „Фіяту". Гэтую аўтамашынку Савецкі Саюз хацеў-бы пачаць прадаць у 1975 годзе ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Справу продажу й рэклямы „Лады" ўзяла на сябе фірма-пасярэднік „Сатра Карпарэйшан".

Машына з ашчадным выдаткам гаручага. Але пачакайце. Ёсьць і амэрыканская машына з такім-жа выдаткам гаручага. Гэта маленькая „Пінта" фірмы „Форд". Прыгожа абсталяваная й эканамічная.

— Чым-жа тады можа паходацца зь ёю нашая „Лада"? Ясна чым: цаною. Бо амэрыканскія фірмы, што выпушчаюць аўтамабілі, плацяць сваім работнікам нешта па 700 даляраў на месяц, а савецкі работнік дастае 100-150 рублёў на месяц. Дык вось дзе залаты калодзеж. Пусьціў „Ладу" крышачку таней — і чакай, мо які Амэрыканец і накруціцца. А там за ім другі. Амэрыка — краіна вялікая. Адзін паласьціцца на эканомію, другі на сымпатыі да дзяржавы, дзе пры ўладзе рабочыя й сяляне. І пойдзе гандль. Паплывуць даляры ў кішэні роднае партыі і ўраду, а там і магазыны сэртыфікатныя побач і пэпсі-коля смачная. Жыцьцё пачнецца — маліна.

Тым часам прыдыбалі мы ў Калізэум і па першым паверсе ходзім. Аўтамабілі адзін прыгажэйшы за другі. Група нашая тлумачэньні гіда слухае, а я адзін сярод машынаў паруляваў. Балазе з унукам ангельскай мовай перад ад'ездам займаўся, дык тое-сёе цямлю. Знайшоў і калегу, здаецца, вартаўніка выстаўкі, ды й пытаюся, як савецкія аўтамабілі пабачыць, а ён мяне на гару ськіроўвае. А на гары яшчэ цікавей, ня толькі сучасныя аўтамабілі стаяць, але й старасьвецкія. Ды чым больш старадаўнейшыя, тым даражэйшыя. Джыпы, пэўна-ж, больш за ўсё вочы адбіраюць. Балёны такія, што якія-хоць нашыя сельскія калдобіны проўдуць. Здаецца-б, сеў за руля й ня вылазіў-бы. Так усё зручна, так усё на месцы. Ну, гэта толькі шафёр зразумець можа. Ну, а далей нейкія там „Пантэры", „Ягуары", „Гонды". Народу не сказаць, каб густа.

У левым-жа кутку гармідар. Пытаюся, што там, кажуць — савецкія аўтамабілі. Я да натоўпу. Праціскацца цяжка, усе з фотаапаратамі ды зь кінакамэрамі поўцца. Але што — два-тры напоры, і я ў сярэдзіне. Аўтамабіляў толькі дахі відаць, а вось дзьве дзяўчыны, дык у самым цэнтры ўвагі. Абедзьве ў вузенькіх плавачках з хутра, ды мініятурныя хутраныя напышнікі поўныя грудкі ледзь захінаюць. А дзяўчаты гэтыя — мантоны зь сібірскага хутра то ськідаюць, то напранаюць. Вось адна ўзглабалася на дах машыны ды позы прынадныя прыймае, а другая на капоце легла, быццам сонцу бакі падстаўляе. А каб плавачкі хутраныя ня ўпалі ненарокам, пальцамі іх прытрымвае.

Фотаапараты ляскаюць, кінакамары цьвірчаць, а рэпартэры ды наведвальнікі мітусяцца. Сэнсацыя!

Адзін рэпартэр лінзы настроіў дый крычыць:

— Аня, падымі правую руку! Соня, глядзі дагары!

Так і не разгледзеўшы аўтамабіляў, выбраўся я з натоўпу. Бачу, за мной таксама адзін з натоўпу вылузваецца. Я да яго, пытаюся:

— Як вам „Лада" савецкая, — кажу, — спадабалася?

А ён мне:

Якая „Лада"? Аня і Соня — вось гэта дзяўчаты.

Зьнемарасьціўся я крыху, што так і не пабачыў сваю аўтамашыну-суайчыньніцу ды стаю. Аж бачу — побач нейкая машына стаіць сіацінкаю, ніхто і ўвагі не бярэ на яе. Хварба на ёй не зігаціць, як на іншых, там-сям падцёкі хварбяныя не зачышчаныя, просьценькая такая, кволенькая. Шкада мне яе зрабілася, дай, думаю, пагляджу, што гэта за марка.

Нагінаюся да радыятара, а там напіс на дошчачцы заміж нумароў: „Лада" напісана! Дык вось ты родненькая! Гэта цябе прыслалі, каб ты захапіла сэрцы Амэрыканцаў, і яны пачалі купляць цябе. А тут нейкія Аня і Соня ў хутраных купальніках сэрцы іхныя цешаць.

Пастаяў я каля „Лады", паляпаў яе па плячуку гэтак па-сяброўску, паспачуваў, і ў гатэль падаўся. А цяпер і з вамі падзяліцца закарцела, якое ўражаньне на мяне выстаўка зрабіла. Дзякуй Богу, і „Ладу" пабачыў, у чым, мабыць, ня ўсім наведвальнікам пашэньціла.

— Ну, то прабачце, калі што ня гэтак. Ня я выставіў гэтыя машыны, дый ня вы таксама, — я думаю.

Дзед Самуйла агледзеў сваю кампанію ды заняўся сваёй піпкай.

**Алесь Вожык**

